

*Няхай анёл прынясе кожнаму з вас шчасце!*

*Усіх хрысціян, якія ў гэтыя дні адзначаюць Каляды, віншуе «Рэгіянальная газета».*

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

TV плюс

21 снежня 2001 года

№ 51 (348)
Выходзіць па пятніцах

## Навіны рэгіёна

### Будзільнік па тэлефоне

**ВАЛОЖЫН.** Днямі раённы вузел электрасувязі ўвёў новы від паслуг – будзільнік па тэлефоне.
Кошт аднаго заказу – 21 рубель. Яшчэ па тэлефоне можна перадаць паведамленне. Кошт гэтай паслугі – 6 рублёў за слова.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### «Пластыкавая» Мядзельшчына

**МЯДЗЕЛ.** Каля 600 жыхароў раёна атрымалі пластыкавыя карткі «Cirrus-Maestro» ад «Беларусбанка» – некаторыя арганізацыі пачынаюць пераводзіць выплату заробкаў на іх. Мяркуюць, што ў наступным годзе на Мядзельшчыне з'явяцца магазіны, у якіх будуць абслугоўваць па картках.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Лепшыя ЗАГСы

**ВАЛОЖЫН.** У панядзелак вызначыліся пераможцы раённага агляду-конкурсу на лепшую залу для правядзення рэгістрацыі шлюбаў і ўрачыстых абрадаў.
Журы разгледзела 16 залаў. Перамаглі Ракаўскі і Бабровіцкі сельвыканкомы, якія атрымалі па 100 тысяч рублёў. А сакратары сельвыканкомаў **Марыя Калбянкова** і **Валянціна Балашко** – па грамаце райвыканкома і 40 тысяч рублёў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Усе дарогі вядуць у Літву

**СМАРГОНЬ.** На мінулым тыдні пагранічны атрад затрымаў дзесяць чалавек, якія хацелі нелегальна перасячы дзяржаўную мяжу з Літвой.
Падчас праверкі цягніка на стацыі "Гудагай-1" пагранічнікі знайшлі 285 пачак цыгарэт, якія ацэнены ў 85,5 тысячы рублёў. Ніхто не прызнаўся, чый гэта тавар. Чатыры чалавекі вывозілі на возе ў Літву каля 500 кілаграмаў лому каляровых металаў.

**Ірына ЯСІНСКАЯ.**

### Перанос выхадных

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб пераносе рабочых дзён у 2002 годзе. Згодна з ёй, рабочыя дні пераносяцца: з серады, **2 студзеня – на суботу, 5 студзеня**; з пятніцы, **10 мая – на суботу, 18 мая**; з панядзелка, **13 мая – на суботу, 25 мая**; з пятніцы, **8 лістапада – на суботу, 16 лістапада** 2002 года.
У бліжэйшы час нас чакаюць "вялікія" выхадныя. 30 снежня (нядзеля), 31 снежня (рабочы дзень перанесены на 29 снежня), 1 студзеня (навагодняе свята) і 2 студзеня.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**



## Надвор'е на выхадныя

| Субота, 22 снежня | |
|---|---|
| **Мінск** -14 – -8°С (уначы) -9 – -7°С (удзень) | **Вільня** -18°С (уначы) -8°С (удзень) |

| Нядзеля, 23 снежня | |
|---|---|
| **Мінск** -14 – -7°С (уначы) -12 – -4°С (удзень) | **Вільня** -13°С (уначы) -11°С (удзень) |

# Куды ні павярніся – Нарач

**За савецкім часам вельмі модна было пераймяноўваць тапанімічныя назвы на новы лад. Чыноўніцтва хацела сцерці з картаў і памяці людской гісторыю. Не абмінула тая бяда і наш рэгіён. Прыкладам, на Мядзельшчыне вёска Купа стала называцца курортным пасёлкам Нарач, а мястэчка Кабыльнік – вёскай Нарач. Вёску Нароча на Вілейшчыне таксама запісалі Нараччу. Але людзі і сёння называюць населены пункты гістарычнымі імёнамі. А ўвогуле, у 60-я гады слова «Нарач» зрабілася папулярным, нягледзячы на штучнасць новых назваў. Да чаго гэта прывяло? Утыкайцеся у радкі з энцыклапедый.**




Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Зіма 2001/02. Гістарычная назва вёскі Купа жыве. Пакуль на дарожным указальніку.**

**Нарач** – найбольшае возера на Беларусі, у Мядзельскім раёне Мінскай вобласці. Уваходзіць у Нарачанскую групу азёр і Нацыянальны парк Нарачанскі.

Нарач, Нарачанка – рака ў Вілейскім і Мядзельскім раёнах Мінскай вобласці, правы прыток ракі Вілія.

**Нарач** – вёска ў Мядзельскім раёне Мінскай вобласці, каля ракі Нарач, на аўтадарозе Вілейка-Смаргонь. Цэнтр сельсавета і калгаса.

**Беларуская энцыклапедыя, т. 11, Мн., "Беларуская энцыклапедыя", 2000.**

**Нарач** – курортны пасёлак, цэнтр курортна-пасялковага Савета, кліматычна-бальнеалагічнага курорта рэспубліканскага значэння. Утвораны 27 кастрычніка 1964 года паводле рашэння Мінскага аблвыканкома.

У межы пасёлка ўвайшлі вёскі Купа, Урлікі, Сцепанёва і дамы адпачынку "Нарач" (адкрыты ў 1964 годзе)..., санаторый "Нарач", рыбгаспадарка "Нарач", турысцкая база "Возера Нарач".

**Нарач** (да 30 ліпеня 1964 года Кабыльнік, Кабельнікі) – веска, цэнтр сельсавета. Вядомая з XV стагоддзя ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяводства. З красавіка 1965 года вёска – цэнтр саўгаса "Нарач". Тут размешчаныя ААТ "Нарачанскі масласырзавод", Нарачанскі завод напіткаў, будаўніча-вытворчае ўпраўленне "Нарачпрафбуд".

**Гісторыка-дакументальная хроніка Мядзельскага раёна "Памяць", Мн., "Беларуская энцыклапедыя", 1998 г.**

### Экспрэс-апытанне жыхароў Мядзельшчыны

# Якія назвы для вас бліжэй: гістарычныя ці сучасныя?



**Мечыслаў Шапэчка, пенсіянер:**
– Я нарадзіўся ў Купе. Пасля перайменавання прайшло шмат часу, і людзі прывыклі да новай назвы. Для мяне няма розніцы, як называюць вёску.



**Валянціна Васілевіч, урач:**
– Усе называюць Кабыльнік Кабыльнікам. Адразу можна пазнаць прыезджага, ён будзе называць гэтыя вёскі сучаснай назвай. Нярэдка была блытаніна, калі людзі хацелі трапіць у курортны пасёлак Нарач, а іх завозілі ў вёску Нарач. І наадварот.



**Аксана Каравацкая, медсястра:**
– Я жыву ў вёсцы Нарач. Для мяне гэтая назва зручней, бо да яе ўжо прывыкла. Хаця вярнуць гістарычную назву было б ня дрэнна. Каб пазбегнуць блытаніны.



**Соф'я Дзяргач, пенсіянерка:**
– Я называю і так, і так. Калі пішу ў Польшчу да знаёмых, то Кабыльнік, тут – Нарач. Для мяне непрынцыпова, як называецца вёска. Імя Нарач, магчыма, і прыгажэй, затое Кабыльнік – гэта гістарычная назва.



**Вадзім Пракудзін, галоўны ўрач:**
– Я чалавек прыезджы. Але за 6 гадоў на Нарачы я ўбачыў, што Кабыльнік – гэта Кабыльнік, а Купа – гэта Купа. А Нарач – гэта гістарычная назва возера і не больш. А то назвалі так дом адпачынку, санаторый, тургасцініцу. Я калісьці бачыў старажытную карту, і там была назва Кабыльнік.



**Пётр Палубятка, эканаміст:**
– Для мяне зручней назва Нарач. Хаця старэйшыя людзі называюць гэтую вёску Кабыльнікам. Лічу, што слова Нарач прыемней для вуха, чым Кабыльнік. Тут столькі ўсяго мае назву Нарач, што складваецца ўражанне, што ў беларускай мове няма іншых слоў.

**Фотаапытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# Стаяла вясна 1951-га...

**22 снежня спаўняецца 75 год маёй цётцы, Ганне Зяновіч.**

Цяпер, на жаль, толькі ўжо ў яе памяці засталося дзяцінства за польскім часам, вучоба ў роднай Лебедзеўскай школе, вайна, Маладзечанская гандлёвая школа, настаўніцкі інстытут. Затым выкладчыцкая праца ў Соўлаўскай, Ермакоўскай і Лебедзеўскай школах. І як найвялікшая ўзнагарода за гэта, яе гонар – былыя вучні, якія сталі выдатнымі ўрачамі, інжынерамі і рабочымі.



**На здымку. Вясна 1951 года. Класны кіраўнік 3-га класа Лебедзеўскай сярэдняй школы Ганна Зяновіч са сваімі вучнямі.**

**Алесь ЦАДКО.**

# Перамогі лётчыка Ляшковіча

**Здараюцца лёсавызначальныя часы для гарадоў і цэлых рэгіёнаў. У канцы 80-х гадоў дваццатага стагоддзя небяспечна завагалася на шалях авантурызму будучыня Вілейкі.**

## Удары пад дых

Спачатку Вілейшчыну абяскровіў завод "Зеніт": высмактаў каля 6 тысяч маладых працаўнікоў з нашага рэгіёна. Вёскі знясілелі без моладзі, якую пераманіў да сябе ўзведзены гігант.

У 1973 годзе – другі ўдар. Экалагічны. Была перакрытая Вілія. Мімаходам заўважу, што ўжо апякліся на перакрыцці Свіслачы. Утворанае Мінскае мора "зацвіло" водарасцямі і разанула гніллю па наваколлі.

– Пад Вілейскае мора глебу павыбіраем да пяску. Вада застанецца крыштальнай, як слязінка немаўляці. Панабудуем санаторыяў, дамоў адпачынку, – білі сябе ў грудзі высокапасадныя таварышы. А насамрэч затапілі і глебу палёў, і лугі-сенажаці, і нават лясы з дрэвамі на карані. Маштабы гнілі пераўзышлі і Мінскае мора з наступствамі і для прыроды, і для людзей.

І вось у канцы 80-х над Вілейкай была занесеная новая сякера небяспекі – будаўніцтва мікрараёна на 25 тысяч жыхароў! У пойме Віліі. Ніжэй плаціны вадасховішча. Хто толькі мог дадумацца да такой недарэчнасці? Намываць шматметровую гіганцкую пляцоўку пяску. На ёй будаваць горад. Каб у яго ссяліць астатняе сельскае насельніцтва раёна. Ці ж не вядома, чаго вартае ўсё, пабудаванае на пяску? А тут – літаральна на залатым пяску. Без экалагічнай экспертызы земснарад пачаў намываць пясчаныя дзюны.

Лопнула цярпенне вілейскай неабыякавай грамадскасці.

– Прасцей і танней будаваць горад у бок Вязыні, Маладзечна, Асіпавіч ці Бараўцаў на гатовым прыродным пяску, – парапанавала грамадскасць.

– Тут лес – зялёныя лёгкія горада, – парывала начальства.

– А ў бок Любані ці Куранца! – слушна даводзілі ўпартаму начальству.

– Ці ж можна губіць урадлівыя землі? – важна надзімалі шчокі кіраўнікі.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Былы лётчык, а цяпер прадпрымальнік Станіслаў Ляшковіч, не даў здзейсніцца авантурным планам «горадабудаўнікоў».**

Забягаючы наперад, зазначу: праз некалькі год у тых "зялёных лёгкіх" паўсталі "каверны" царскіх сёлаў. А на ўрадлівых землях пераліваюцца на сонцы бліскучымі бляхамі дахі шматпавярховак тых, хто меў доступ да крэдытаў і будматэрыялаў. Таго ж начальства.

Няроўны бой паміж грамадскасцю і наменклатурай нарастаў. Бо была ж такая забудова ў Кіеве ніжэй плаціны вадасховішча. Цэлы мікрараён імгненна быў змыты гразевым патокам пры прарыве плаціны. Разам са шматлікімі жыхарамі.

## Інструкцыі пісаліся крывёю лётчыкаў

Вось тут да барацьбітоў з бюракратычным дзікунствам далучыўся і наш зямляк Станіслаў Ляшковіч. Звычайны фермер. Але за плячыма яго, улюбёнага ў зямлю Радзімы, быў шлях у цэлае "незямное жыццё".

Стаць лётчыкам падштурхнула яго назіранне за парашутыстамі. Вываляцца мячыкамі з самалётаў, хлоп! – і купалы парашутаў расцвітаюць каляровымі букетамі. "І я змагу!" – цвёрда вырашыў Станіслаў, дзесяцікласнік Ільянскай школы. З 1951 па 1954 гады вучыцца лятаць на розных самалётах-знішчальніках: Як-18, Як-11, Ла-9. Затым на рэактыўных МіГ-15. Малады лейтэнант Ляшковіч асвойвае неба над Усурыйскай тайгой. А на зямлі акунаецца ў чароўны свет рамантыкі, услаўлены ў вядомай кнізе Арсеньева "Дзерсу Узала". Тут ён сустрэў і цудоўных людзей, і гарачае каханне – на ўсё жыццё.

Паварот лёсу – і ён ужо лётчык-выпрабавальнік. Ставіць на крыло звышгукавыя СУ-7 і СУ-17. Пачынаецца нялёгкі пад'ём па каманднай лесвіцы. А тут цяжкае выпрабаванне – гібель таварыша.

Аднойчы сярод пакутнага роздуму яго прапяла здагадка. Нібы маланка азарыла.

– Прыйшло рашэнне простага ўдасканалення электрасхемы, – успамінае Станіслаў Канстанцінавіч. – З вядучым інжынерам мы ў той жа дзень накіравалі Галоўнаму канструктару Сухому, нашаму земляку, план зменаў электрасхемы самалётаў. Ён быў прыняты, і мы нават атрымалі прэмію. Аварыі і катастрофы ў часцях ВПС па гэтай прычыне спыніліся.

З 1971 па 1987 год ён служыў на Ніжагародскай авіябазе фірмы Мікаяна, выпрабоўваў моц крылаў вышыннага перахватчыка МіГ-31. Восенню 1979 года давялося самому адчуць подых смерці: на вышыні 19 кіламетраў раптам заглухлі абодва рухавікі самалёта. Ён здзейсніў 5 безвыніковых спробаў ажывіць іх. І толькі калі ўжо перастала дзейнічаць кіраванне, на малой вышыні яны з таварышам катапультаваліся. Як часта бывала, шматлікая камісія доўга вінавацiла ў гэтай аварыі лётчыкаў, пакуль, нарэшце, не расшыфравалі чорную скрыню самалёта. Іх не толькі апраўдалі, але і ўзнагародзілі ордэнамі. А ў інструкцыю ВПС запісалі новае правіла запуску спыніўшыхся рухавікоў.

## Выконваў абавязак грамадзяніна. І працягвае выконваць

Выйшаў у адстаўку С. Ляшковіч у званні палкоўніка. Дасягнуў на службе самай высокай лётнай класнасці і ганаровых званняў.

Яшчэ на Далёкім Усходзе ўбачыў, як жорсткая камуністычная палітыка "зліцця народаў у адзіны савецкі народ" загубіла дзесяткі народаў. Ён выступіў у абарону амурскіх нанайцаў, з якімі шчыра пасябраваў. А калі вярнуўся на радзіму, уключыўся ў абарону віляйчан, якія маглі загінуць у неразумна размешчаным мікрараёне. Ён дамагаецца незалежнай экспертызы праекта засялення поймы Віліі ніжэй плаціны вадасховішча. Толькі хутка начальствам казка пра рай у пойме расказвалася. А вось справа па яе адмене цягнулася доўга. Бо выдзеленая была пад гэтую авантуру сапраўды казачная сума: 149 мільёнаў савецкіх рублёў. Палкоўнік абіваў парогі партыйных органаў, розных міністэрстваў і ведамстваў. Пісаў артыкулы ў газеты, даказваў, пераконваў. Нарэшце, перамог здаровы сэнс: бязглузды праект небяспекі быў адменены.

– Як жа бачныя з паднябесся незагойныя раны прыроды, – з болем у голасе заўважае Станіслаў Канстанцінавіч. – Хворыя і гарэлыя лясы, атручаныя рэкі і дымныя шлейфы ад фабрычных труб. І эрозія глебы – найвялікшага дару прыроды.

Ён адчуваў вялікія даўгі перад зямлёй-карміцелькай. Таму тут, на Вілейшчыне, становіцца фермерам. Чалавек перадавых поглядаў і шырокай адукацыі, ён не мог гвалтаваць зямлю старымі калгаснымі метадамі. Таму заняўся новымі тэхналогіямі – атрыманнем угнаенняў з розных арганічных адходаў з дапамогай чырвоных каліфарнійскіх чарвякоў. Арганізаваў экселерацыйную трусагадоўлю з дапамогай міні-фермаў. Стаў "фермерам года", завязаў сяброўскія стасункі з многімі фермерамі рэспублікі. Калі неспрыяльны эканамічны клімат у Беларусі прымусіў яго пакінуць Радзіму, ён сувязі з сябрамі не парваў: рэгулярна наведвае родныя мясціны, друкуецца ў беларускіх газетах і часопісах.

Неабыякавае сэрца Станіслава Ляшковіча вымушае яго выступаць у абарону прыроды – калыскі чалавецтва. У яго артыкулах гучыць набатны вокліч: чалавек, які ўявіў сябе царом прыроды, капае сам сабе яму, знішчаючы лясы, бяздумна атручваючы рэкі і глебу бязмернай хімізацыяй, чалавецтва набліжаецца да бездані пагібелі, да экалагічнай катастрофы.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ, Вілейка.**

■ ТЭАТР

# «Вавілон»

Фантасмагарычная камедыя ў 2-х дзеях "Вавілон" напісаная **Аляксеем Дударавым** паводле твора **Уладзіміра Някляева** "Вежа". Падзеі разгортваюцца ў вёсцы Каруны Карунскага сельсавета, дзе былы ўдзельнік вайны, а цяпер пенсіянер **Ютка Казубоўскі** будуе вежу да неба. "Навошта?" – задаецца пытаннем літаральна кожны, ад старшыні сельсавета да прэзідэнта ЗША.

У камедыі шмат гумару, гледзячы яе, не засумуеш. Гэта адзін з лепшых спектакляў Мінскага абласнога драматычнага тэатра ў Маладзечне. Яскравыя, запамінальныя вобразы ствараюць **Віктар Багушэвіч, Барыс Донін, Яўген Іўковіч, Ірына Кляпацкая, Алена Рахмангулава, Аляксандр Пашкевіч, Эмілія Ларыёнава, Сяргей Карзей, Алег Чэчанеў.**

Рэжысёр – заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь **Мікалай Мацкевіч**. Мастак – **Яўген Воўкаў**. Прэм'ера – 23 сакавіка 2000 года.

**Мікола ВІКТАРАЎ.**




**Сцэна са спектакля «Вавілон».** Архіў «РГ».

■ МАЛАДЗЕЧАНСКІЯ БУДОЎЛІ

# Дом па Паркавай засяліўся

**МАЛАДЗЕЧНА. На гэтым тыдні ўсе жыхары дома па вуліцы Паркавай атрымалі ключы ад сваіх кватэр.**

29 сакавіка ў васьмікватэрным доме барачнага тыпу, што па вуліцы Паркавай, адбыўся пажар з-за няспраўнасці ўзмацняльніка для калектыўнай антэны. Частка дома моцна выгарала, увесь дом пры тушэнні пажару залілі вадой. Жыць там было немагчыма.

Барак належыць беларускай чыгунцы. Усе сем'і перасялілі ў іншыя месцы. Нягледзячы на тое, што дом пабудавалі ў саракавыя гады, яго вырашылі адрамантаваць. Хаця, на першы погляд, здавалася, што лягчэй будзе разбурыць.

Гаворыць намеснік начальніка Мінскай дыстанцыі грамадзянскіх збудаванняў **Ганна Жаўнерчык**:

– Я вам пакажу ўсе кватэры. Як бачыце, цалкам гатовыя шэсць кватэр. Яшчэ ў дзвюх клеілі шпалеры, і ў аўторак (размова была ў пятніцу) кватэры будуць гатовыя. Пры правядзенні рамонту мы ўлічвалі ўсе пажаданні кватэранаймальнікаў. Яны самі сабе выбіралі шпалеры. Тэхніку для пераезду мы таксама дадзім.

Сапраўды, кватэры маюць усе выгоды і, на наш дылетанцкі погляд, зробленыя бездакорна. Адзіны мінус – няма ванных пакояў, але іх наяўнасць не ўлічаная пры праектаванні дома.

Першая ключы ад кватэры атрымала **Таццяна Кулікові́ч**. Гэта было ў пятніцу.

– Увесь перыяд мы бясплатна жылі ў інтэрнаце. Цяпер задаволеныя ўсім. Новы год будзем сустракаць дома.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ВЫСТАЎКІ

# Выстаўка птушак

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую пятніцу ў Цэнтры пазашкольнай работы адкрылася гарадская выстаўка птушак.**

Яна ўжо сёмая па ліку. Фактычна, гэта работа аднаго гарадскога гуртка "Юны арнітолаг", які працуе ў СШ №3. Узначальвае гурток **Дзмітрый Халадзінскі**.

Наведвае гурток каля 40 чалавек. Д. Халадзінскі гаворыць, што ў навучэнцаў добрая тэарэтычная падрыхтоўка. Прыкладам, адзін трымае дома гадзюк, другі – незвычайную пароду тараканаў. Каб іх даглядаць, трэба нешта ведаць.

На выстаўцы ёсць што паглядзець. Адных галубоў там 16 парод. Прыкладам, у даведніках напісана, што максімальны тэрмін жыцця чорнага дразда – 5 год. Маладзечанскі дрозд 1995 года нараджэння і дагэтуль няблага выглядае.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Навучэнец СШ№3 Косця Скляранка з "мясным" голубам.**

Выстаўка будзе працаваць да 23 снежня.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ НАШЫЯ ГРОШЫ

# Час займацца справай

**Прааналізуем вынікі развіцця сёлетняга фінансавага і валютнага рынку.**

Першы год новага стагоддзя пачынаўся пры курсе 1220 рублёў за долар і планах давесці яго да ўзроўню 1600 рублёў да 1 студзеня 2002 года. Гэта атрымалася. Утрыманне курса ў запланаваных рамках дэвальвацыі і забеспячэнне магчымасці купіць-прадаць валюту па рэальным курсе сталі самымі сур'ёзнымі дасягненнямі нашых улад. Анахранізмам застаецца неабходнасць прад'яўлення пашпарта пры куплі валюты у абменным пункце. Усе астатнія абмежаванні знятыя.



Людзям дапамагае жыць рэальны бізнес. Нават гандаль цацкамі. Маладзечна, калгасны рынак, серада.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Аднак поспех Нацыянальнага банка дасягнуты дзякуючы расійскім крэдытам. Звязаць атрыманыя грошы не ўдалося, ды і ў абменніку народ пайшоў толькі купляць валюту, але не прадаваць. Аб'ём продажу валюты насельніцтву перавышае аб'ём куплі валюты. Гэта першы трывожны сімптом. Другі – насельніцтва паверыла банкам і панесла свае грошы на ўклады і дэпазіты – у банках сёння знаходзяцца сродкі фізічных асоб на суму больш за 500 мільёнаў долараў. Для эканомікі гэта добра, але калі з'явіцца хоця б адзін каменьчык сумнення ў гарантыях звароту сродкаў назад – увесь камяк плюс паніка змятуць усю банкаўскую сістэму ў лічаныя гадзіны.

Акрамя ўтрымання рэальнага валютна-абменнага курсу, ураду і Нацбанку ўдалося на працягу года захаваць станоўчую рэальную стаўку працэнта: увесь год выплачваемыя банкам працэнты былі пастаянна вышэйшыя за ўзровень інфляцыі. Хаця працэнты рэзка знізіліся – са 125-130% гадавых у пачатку года да 60-65% сёння. Тыя, хто ў пачатку 2001 года вырашылі здаць долары і размясціць сродкі на рублёвых укладах, змаглі атрымаць да Новага года неблагі даход, нават з улікам інфляцыі. Той, хто застаўся верны валютным дэпазітам, не «прагадаў», але і не зарабіў: працэнты рэзка знізіліся з 12-14% гадавых да 8-10% сёння. Таму, як дадатковая крыніца даходу, свабодныя зберажэнні на ўкладах і дэпазітах застануцца і ў новым годзе.

Пра тое, што прапануе нам наступны год, гаварыць складана. Як звычайна, будзем прытрымлівацца аптымістычнага сцэнарыя развіцця падзей. Верасьнёўскія тэракты ў Амерыцы моцна падарвалі ўпэўненасць грамадзян у сытым і спакойным заўтрашнім дні. Занервавалiся нават беларусы – скупляецца мэбля, пайшлі ўверх цэны на нерухомасць, ідзе масавае пазбаўленне амерыканскай валюты.

У 2002 годзе ў краіне будзе працягвацца мінулая палітыка развіцця эканомікі, якая была падтрымана на прэзідэнцкіх выбарах. Манаполія дзяржавы ва ўсіх галінах жыцця захаваецца. Шокавай тэрапіі ў нас не будзе, не будзе рэзкай прыватызацыі, усе чаканні пачатку лібералізацыі ў Беларусі яўна завышаныя. Акцыянаванне і прыватызацыя шэрагу буйных вытворчасцяў непазбежныя, гэта дыктуе расійскі капітал, які набраў моц на гандлі нафтай і газам. Хаця і тут мы пойдзем не як усе, а сваім, беларускім шляхам. Аднак зрухі, хоць і марудныя, будуць, нават па банальнай прычыне. Прэзідэнт стаміўся быць у адказе за ўсё. Знойдуцца іншыя вінаватыя – міністры, дырэктары, чыноўнікі. Жыць стане крыху складаней. Дапаможа рэальны бізнес: вытворчасць, гандаль і сфера паслуг. На гэтых трох кітах стаіць увесь свет. Час і нам заняцца справай.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 13 снежня | 20 снежня |
|---|---|---|
| Долар | 1560,00 руб. | **1571,00** руб. |
| Нямецкая марка | 713,79 руб. | **723,28** руб. |
| Літ | 390,07 руб. | **392,75** руб. |
| Расійскі рубель | 51,86 руб. | **51,89** руб. |
| Злоты | 385,19 руб. | **393,71** руб. |
| ЕЎРА | 1396,04 руб. | **1414,61** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1570 – 1590 руб. | **1570 – 1590** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 12.12 | 19.12 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2480 | **2600** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7200 | **7600** |
| Сасіскі, 1 кг | 3280 | **3050** |
| Селядзец, 1 кг | 1950 | **1980** |
| Рыс, 1 кг | 550 | **560** |
| Грэчка, 1 кг | 440 | **440** |
| Цукар, 1 кг | 675 | **675** |
| Алей, 1 л | 1350 | **1350** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 950 | **1050** |
| Маянэз, 200 г | 310 | **310** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1700 | **1700** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 550 | **560** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 550 | **550** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 350 | **350** |
| Капуста, 1 кг | 200 | **380** |
| Лімоны, 1 кг | 1300 | **1550** |
| Апельсіны, 1 кг | 1100 | **1200** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1400 | **1300** |
| Масла, 1 кг | 2800 | **2900** |
| Тварог, 1 кг | 1600 | **1200** |
| Малако, 1,5 л | 500 | **600** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1800 | **1500** |
| Бульба, 1 вядро | 1900 | **2000** |
| Морква, 1 кг | 500 | **600** |
| Яблыкі, 1 кг | 400 | **700** |

■ ПРАЦОЎНАЕ ЗАКАНАДАЎСТВА

# Выпрабавальны тэрмін

**Парадак устанаўлення выпрабавальнага тэрміну, працягласць і наступствы яго спынення прадугледжаны артыкуламі 28 і 29 Працоўнага кодэкса Беларусі.**

Для праверкі адпаведнасці работніка занятку, што яму даручаецца, можа быць устаноўлена папярэдняе выпрабаванне. Тэрмін такога выпрабавання не можа перавышаць 3 месяцы. Аднак у гэты тэрмін не залічваюцца перыяды, калі работнік адсутнічаў на рабоце. Гэтае правіла накіраванае на тое, каб наймальнік мог рэальна ацаніць веды і навыкі работніка, неабходныя для выканання даручанай яму работы.

Умова аб папярэднім выпрабаванні павінна быць у абавязковым парадку ўказаная ў працоўным дагаворы, форма якога з 1 студзеня 2000 года – абавязкова пісьмовая. У супрацьлеглым выпадку лічыцца, што працоўны дагавор заключаны без папярэдняга выпрабавання.

У частцы 4 арт. 28 ПК РБ утрымліваецца пералік катэгорый работнікаў, для якіх папярэдняе выпрабаванне не ўстанаўліваецца. Гэта:

– работнікі, якім няма 18 год;

– маладыя рабочыя па заканчэнні прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў;

– маладыя спецыялісты па заканчэнні вышэйшых навучальных устаноў;

– інваліды;

– часовыя і сезонныя работнікі;

– пры пераводзе на работу ў іншую мясцовасць або да іншага наймальніка;

– пры прыёме на работу па конкурсе, па выніках выбараў;

– у іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам.

У выпадку, калі наймальнік незаконна ўстанавіў выпрабавальны тэрмін, напрыклад, для цяжарнай жанчыны, і па заканчэнні яго звольніў работніка як не вытрымаўшага выпрабаванне, такі работнік павінен быць аднаўлены судом на рабоце.

Што тычыцца скасавання працоўнага дагавора з папярэднім выпрабаваннем, то ў дадзеным выпадку яно мае некаторыя асаблівасці.

Кожны з бакоў можа скасаваць працоўны дагавор з папярэднім выпрабаваннем:

– да заканчэння тэрміну папярэдняга выпрабавання, папярэдзіўшы пра гэта пісьмова другі бок за тры дні;

– у дзень заканчэння тэрміну папярэдняга выпрабавання (арт. 29 ПК).

Работнік мае права ў любы час скасаваць працоўны дагавор, заключаны на няпэўны тэрмін. Гэтае права захоўваецца за ім і пры скасаванні працоўнага дагавора з папярэднім выпрабаваннем, аднак у дадзеным выпадку ён абавязаны папярэдзіць наймальніка толькі за 3 дні, а не за адзін месяц, як гэта прадугледжана ў арт. 40 ПК РБ.

У выпадку звальнення работніка па прычыне нездавальняючага выніку наймальнік абавязаны ўказаць прычыны, што паслужылі падставай для такіх высноў. Факты неналежнага выканання работы могуць быць пацверджаныя актамі, службовымі запіскамі і да т. п., у якіх павінна быць указана, у чым менавіта праявілася яго некампетэнтнасць, прафесійная неадпаведнасць.

Працоўны дагавор па выніках выпрабавання можа быць скасаваны да заканчэння выпрабавальнага тэрміну або ў апошні дзень тэрміну. У адваротным выпадку лічыцца, што работнік вытрымаў выпрабаванне і ў далейшым скасаванне з ім працоўнага дагавора магчыма толькі на агульных падставах.

**Святлана АДАМОВІЧ, вядучы дзяржінспектар Маладзечанскай міжраённай інспекцыі працы.**

■ СЛУЖБА 01

# Каб не азмрочыць навагодняе свята

**Рыхтуючыся да навагодняга свята, кожны імкнецца лепш, святочней упрыгожыць ёлку. Пры гэтым часта выкарыстоўваюцца цацкі з паперы, ваты, неапрацаваныя вогнезасцерагальным саставам.**

Нярэдка зялёную прыгажуню ўстанаўліваюць ля прыбораў ацяплення, упрыгожваюць яе самаробнымі гірляндамі, хлапушкамі і бенгальскімі агнямі. Па гэтых прычынах работнікам пажарнай службы не раз даводзілася выязджаць для тушэння пажараў у дні святкавання Новага года. Нярэдка невыкананне супрацьпажарных правілаў заканчваецца трагічна.

Таму нагадаем вам элементарныя правілы пажарнай бяспекі на час святкавання Новага года:

- у памяшканнях забараняецца карыстацца феерверкамі, хлапушкамі, запальваць бенгальскія агні, выкарыстоўваць для ілюмінацыі свечкі;
- вата і папера на ёлцы і карнавальных касцюмах павінна быць апрацаваная вогнезасцерагальным саставам;
- забараняецца карыстацца адкрытым агнём, запалкамі, курыць;
- забараняецца выкарыстоўваць для ілюмінацыі самаробныя гірлянды.

Калі пажар здарыўся, трэба тэрмінова паведаміць пра гэта ў пажарную службу па тэлефоне "01", прыняць усе меры па выратаванні людзей, тушэнні пажару тымі сродкамі, што ёсць, да прыбыцця пажарных падраздзяленняў і эвакуацыі маёмасці. Памятайце, што пажар лягчэй папярэдзіць, чым патушыць!

**Андрэй РАБЕЦ, цэнтр навучання правілам пажарнай бяспекі Маладзечанскага гарраяддзела па надзвычайных сітуацыях.**

■ СПАЖЫВЕЦКІЯ КЛОПАТЫ

# Гарантыя на акуляры – 2 месяцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Мужчына на адным з рынкаў горада купіў акуляры за 7 тысяч рублёў. Праз месяц паламалася аправа.**

Маладзечанец настойваў на тым, што яму прадалі тавар неналежнай якасці і звярнуўся ў арганізацыю абароны спажыўцоў з просьбай вярнуць грошы. І свайго дамогся.

Старшыня арганізацыі Уладзімір Клешч расказаў, што гарантыя на ўсе аправы – 2 месяцы, на шкло гарантыі няма. Калі ў вас з'явіліся прэтэнзіі па аправе і гарантыйны тэрмін не сышоў, то звяртайцеся ў арганізацыю абароны спажыўцоў. Там аправу накіруюць на экспертызу, і калі яна дасць заключэнне, што аправа няякасная, то вы зможаце вярнуць грошы.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Збілі артыстаў цырка

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак каля 13 гадзін машына Аўдзі-80 збіла двух артыстаў Гомельскага цырка, якія стаялі на абочыне праезнай часткі.**

Машыну занесла пры тармажэнні. Вадзіцель быў цвярозы. Пацярпелыя мужчына і жанчына дастаўленыя ў бальніцу з дыягназам разрыў унутранай бакавой звязкі левага каленнага сустава. У мужчыны разарванае левае плечавое сучляненне.

## Выбег на праезную частку

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак вечарам машына "Форд" наехала на мужчыну 45–50 год, які выбег на праезную частку па вуліцы Віленскай.**

Асоба пацярпелага не ўстаноўленая. Мужчына атрымаў адкрытую цяжкую чэрапна-мазгавую траўму, удар галаўнога мозгу цяжкай ступені, пералом касцей зводу чэрапа. Ён паступіў у рэанімацыю, знаходзіцца ў коме.

**Яўген УРБАНОВІЧ, інспектар па дазнанні ДАІ Маладзечанскага ГРАУС.**

## Галалёд

**СМАРГОНЬ. Галалёд – гэта асноўная прычына дарожна-транспартных здарэнняў, якія адбыліся ў апошнія дні.**

15 снежня па вуліцы Гагарына сутыкнуліся 3 машыны – "Форд", "Опель" і "Фольксваген". Пацярпелі толькі аўтамабілі. На наступны дзень аналагічнае здарэнне і з падобным выхадам адбылося на вуліцы Міцкевіча.

А ў панядзелак на аўтадарозе Смаргонь-Маладзечна каля вескі Белая вадзіцель "Аўдзі-80" пры спробе абгону грузавога аўтамабіля не справіўся з кіраваннем, выехаў на сустрэчную паласу і сутыкнуўся з "Мерседэсам". Вадзіцеля "Аўдзі" са страсенем мазгоў даставілі ў бальніцу.

**Ірына ЯСІНСКАЯ.**



Фота Віктара СУВОРАВА. Рэпрадукцыя Васіля АРЦЮШЭНКІ, IREX/ProMedia.

Шпрыц на дваіх...

# Найстарэйшаму наркаману 42 гады. Столькі не жывуць

МАЛАДЗЕЧНА. У 1996 годзе ў РБ створаная служба нораваў і незаконнага абароту наркотыкаў. У Маладзечне гэтым напрамкам работы займаецца старшы оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку **Міхаіл Глінскі**. Задача службы (таксама на мясцовым узроўні) – супрацьдзеянне росту незаконнага абароту наркотыкаў і стварэнне сістэмы прафілактыкі наркаманіі, скарачэнне яе да ўзроўню мінімальнай небяспекі для грамадства.

У Маладзечне, як і ў раёне, не сакрэт, ёсць наркаманы. 30 чалавек стаіць на ўліку псіханеўралагічнага дыспансера. Радуе, што другі год запар зніжаецца колькасць хворых на наркаманію. Сумесная работа міліцыі, медыкаў, навучальных установаў стварыла сістэму прафілактыкі сярод моладзі. І таму да старых наркаманаў далучаюцца адзінкі. Дарэчы, самаму старому наркаману горада 42 гады. А нагул, сярэдні ўзрост гэтай катэгорыі – 30,6 года.



Фота Віктара СУВОРАВА. Рэпрадукцыя Васіля АРЦЮШЭНКІ, IREX/ProMedia.

**Яшчэ не позна адумацца.**

У вёсцы Белыя Гарадзілаўскага сельсавета сям'я прадавала мак. За грошы. За рэчы, якія кралі наркаманы і прыносілі гаспадыні. А ў яе была свая такса. Напрыклад, супрацоўніку міліцыі (ён выконваў ролю наркамана-пакупніка, аперацыя праводзілася сумесна з камітэтам па арганізаванай злачыннасці) гаспадыня прадала 50 шклянак галовак маку за 50 долараў. Гандлярка пакараная, нягледзячы на тое, што ў яе двое дзяцей трох і аднаго года.

Ідзе следства яшчэ па адной "каралеўне дурману", таксама жыхарцы раёна. У гэтай цэны былі больш памяркоўныя. 25 шклянак макавай саломкі яна прадавала за 25 тысяч.

Калі ў Маладзечне сітуацыя прадказваецца, кантралюецца, то ў вобласці яна складаная. Салігорск, Барысаў, Мінскі раён – цэнтры па збыце і ўжыванні гераіну. Па аператыўнай інфармацыі, гераін даўшоў і да нашага рэгіёна. Але, на шчасце, рынак збыту ў нас не сфарміраваны. Нарэшце, з гераінам змагацца вельмі цяжка. З-за аб'ёму. Адна доза гэтага наркотыка ў выглядзе парашку размесціцца на пазногці. Таму складана выяўляць гандляроў і наркаманаў-гераіністаў.

**Віталь КРУПЯНЬКОЎ.**

■ СПРАВЫ СУДОВЫЯ

# «Украў, выпіў, у турму – рамантыка!»

**МАЛАДЗЕЧНА. Сяброўства, у добрым сэнсе гэтага слова, – гэта цудоўна, тым больш, мужчынскае, якое з цягам часу робіцца толькі мацней. Але вось сяброўства, якое завязалася паміж Аляксандрам Карповічам, Дзянісам Каробчыцам, Уладзімірам Дзядзелам і Сцяпанам Субачам, ператварылася для іх пры пэўных абставінах у кваліфікуючую прыкмету саставу злачынства.**



Фота IREX/ProMedia.

**Рамантыка для рабаўнікоў рана ці позна заканчваецца «на зоне».**

Гэтых людзей звязвалі не нейкія хобі, а захапленне спіртнымі напіткамі, пошукамі прыгод.

31 сакавіка 2001 года Карповіч і Каробчыц, ад самай раніцы знаходзячыся нападпітку, вырашылі зайсці да свайго знаёмага ў інтэрнат і выпіць з ім за сустрэчу. Дзверы ніхто не адчыніў, але гэта сяброў не спыніла. Яны ўвайшлі ў пакой, агледзеліся і падумалі, што некаторыя з рэчаў, што былі там, ім не перашкодзілі б. Прыхапілі з сабой норкавую шапку, куртку, электрафен, пашпарт гаспадыні і яе санкніжку, Каробчыц і Карповіч накіраваліся яшчэ да аднаго таварыша – Дзядзелы, які таксама пражываў у інтэрнаце. Уладзімір Дзядзела разам з сябрам Сцяпанам Субачам знаходзіліся дома і адгукнуліся на прапанову Карповіча і Каробчыца "абмыць" "трафеі", якія яны прынеслі з сабой. Выпілі віна, захацелася працягу банкету. З гэтай мэтай і пайшлі сябры блукаць па горадзе.

Каля 11 гадзін вечара яны праходзілі каля школы №8. Насустрач кампаніі ішоў чалавек. Субач і Дзядзела параўняліся з прахожым, паваліլі яго і пачалі збіваць нагамі. Карповіч і Каробчыц таксама не ўпусцілі магчымасці ўзяць удзел у расправе. Калі чалавек заціх, з яго знялі куртку, туфлі, забралі дакументы і партаманет, пасля чаго кампанія прадоўжыла свой "праменад" у бок магазіна "Альянс" за дабаўкай.

Чым яшчэ быў насычаны вечар 31 сакавіка, сябры слаба памяталі. А на наступны дзень з пахмелля ва ўсіх трашчалі галовы, але грошы, як аказалася, былі ўсе прапітыя. І тут ідэя прыйшла ў хворую галаву Дзядзелы. Ён вырашыў вярнуць скрадзеныя Карповічам і Карыбчыцам дакументы, якія сябры пакінулі яму, уладальніку за ўзнагароду. Менавіта пры перадачы гэтых дакументаў ён і быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі.

Па факце крадзяжу з пакоя інтэрната і разбойнага нападу каля школы №8 была ўзбуджаная крымінальная справа. Пры правядзенні следчых мерапрыемстваў былі ўстаноўленыя асобы злачынцаў. Аказалася, што Дзядзела і Субач ужо былі неаднаразова судзімыя, мелі не знятыя і не пагашаныя судзімасці. Сваімі злачыннымі паводзінамі яны паказалі, што на шлях выпраўлення яны не сталі і выпраўляцца не збіраліся. Гэтыя абставіны судом пры разглядзе справы былі ўлічаныя як абцяжарваючыя крымінальную адказнасць. Таксама на вырашэнне пытання аб меры пакарання аказаў уплыў і той факт, што злачынствы былі здзейсненыя групай асоб.

Улічваючы змякчаючыя акалічнасці, такія, як раскаянне, пакрыццё ўрону, у сукупнасці з абцяжарваючымі, суд прызнаў Карповіча, Каробчыца, Дзядзелу і Субача вінаватымі ў здзяйсненні крадзяжу і разбойнага нападу і прыгаварыў іх да розных тэрмінаў пазбаўлення волі ў калоніях строгага рэжыму.

Прыгавор быў абскарджаны ў Мінскім абласным судзе, але калегія абласнога суда прызнала прыгавор правільным і пакінула яго без змянення, а скаргі – без задавальнення.

**Аляксандр МЫЦЬКО, кансультант суда Маладзечна.**

**Ад рэдакцыі.** Прозвішчы герояў публікацыі не рэдкія. Магчымыя супадзенні з імёнамі прыстойных маладзечанцаў, у якіх мы загадзя просім прабачэння за гэта.

■ СПРАВЫ СУДОВЫЯ

# Статус і паўнамоцтвы народнага засядацеля

**МАЛАДЗЕЧНА. 15 чэрвеня 2001 года Дэкрэтам прэзідэнта Беларусі зацверджанае Палажэнне аб народных засядацелях. У нас ёсць суд прысяжных.**

Грамадзяне Беларусі маюць права ўдзельнічаць у дзейнасці суда па здзяйсненні правасуддзя у якасці народных засядацеляў. Крымінальныя справы разглядаюцца ў складзе суддзі і двух народных засядацеляў ў адпаведнасці з новым УПК толькі ў выпадках, калі крымінальным законам за здзейсненае злачынства прадугледжваецца пакаранне звыш за 10 год пазбаўлення волі або смяротнае пакаранне, і калі абвінавачваемымі з'яўляюцца непаўналетнія.

Народнымі засядацелямі могуць быць грамадзяне Беларусі, якія дасягнулі 25-гадовага ўзросту, за выключэннем тых, хто мае судзімасць, хто прызнаны абмежавана або цалкам недзеяздольнымі, дзяржаўных служачых і свяшчэннаслужыцеляў. Для маладзечанскага суда ўстаноўлена 260 народных засядацеляў. Падбор кандыдатаў і складанне спісаў народных засядацеляў здзяйсняецца гарвыканкомам тэрмінам на 5 год. Уключэнне грамадзян у названыя спісы робіцца з іх згоды. Спіс народных засядацеляў суда Маладзечна зацвярджаецца Мінскім абласным выканкомам.

Народныя засядацелі маюць права здзяйсняць правасуддзе толькі пасля прынясення прысягі. Падпісаныя дакументы аб прынясенні прысягі захоўваюцца ў асабістых справах народных засядацеляў. Пасля прынясення прысягі народнаму засядацелю ўручаецца пасведчанне народнага засядацеля.

Адбор народных засядацеляў для разгляду канкрэтнай справы ў судзе робіцца суддзёй, які разглядае гэтую справу, згодна з чарговасцю, з ліку народных засядацеляў суда Маладзечна. Народны засядацель прыцягваецца да выканання сваіх абавязкаў на тэрмін не больш за 21 дзень у годзе, а ў выпадку, калі час разгляду канкрэтнай справы перавышае ўказаны тэрмін, – на тэрмін разгляду гэтай справы. Справа, пачатая з удзелам народных засядацеляў, павінна быць скончаная з іх удзелам і па заканчэнні тэрміну паўнамоцтваў.

Пры здзяйсненні правасуддзя народным засядацелям прадастаўляюцца правы і на іх ускладаюцца абавязкі суддзі. Працуючым народным засядацелям за выкананне абавязкаў у судзе робяцца выплаты ў памеры сярэдняга заработку (даходу) па месцы асноўнай работы. Непрацуючым засядацелям і пенсіянерам выкананне абавязкаў у судзе аплачваеццаа ў памеры сярэдняга заработку для мясцовасці па месцы знаходжання суда. У выпадку выезду народных засядацеляў для выканання абавязкаў у судзе за межы сапраўднага месца жыхарства, ім выплачваюцца, акрамя ўказаных выплат, камандзіровачныя выдаткі ў памеры, устаноўленым зак..ам.

Прадугледжаныя выплаты робяцца судом за кошт сродкаў, што выдзяляюцца на гэтыя мэты з рэспубліканскага бюджэту.

Звальненне народных засядацеляў з асноўнай работы па ініцыятыве наймальніка дапускаецца пры захаванні агульнага парадку, прадугледжанага Працоўным кодэксам Беларусі і толькі са згоды органа, які зацвердзіў спісы народных засядацеляў.

Народныя засядацелі, якія выконваюць абавязкі ў судзе, не могуць без органа, што зацвердзіў спісы народных засядацеляў, быць прыцягнутыя да крымінальнай адказнасці або падвергнутыя мерам адміністрацыйнага спагнання, а таксама да іх не могуць быць прымененыя меры працэсуальнага прымусу, прадугледжаныя Крымінальна-працэсуальным кодэксам Беларусі.

Народныя засядацелі могуць быць вызваленыя ад выканання абавязкаў у судзе да заканчэння тэрміну паўнамоцтваў па рашэнні органа, які зацвердзіў спісы народных засядацеляў, у сувязі з працяглай хваробай, а таксама па іх просьбе па іншых важкіх прычынах.

Народныя засядацелі могуць быць пазбаўленыя сваіх паўнамоцтваў за наўмыснае парушэнне законнасці або здзяйсненне заганнага учынку, несумяшчальных з іх высокім званнем, а таксама ў сувязі з абвінаваўчым прыгаворам суда ў адносінах да іх, які ўступіў у сілу, не інакш, як па рашэнні адпаведнага органа, што зацвердзіў спісы народных засядацеляў. У такім самым парадку здзяйсняецца прыпыненне паўнамоцтваў народнага засядацеля ў выпадку прад'яўлення яму абвінавачвання па крымінальнай справе.

**Дзмітрый СІНЯЎСКІ, памочнік старшыні суда Маладзечна.**

# ВІНШАВАНКІ

З днём нараджэння дарагую матулю **Таццяну Лаўрыновіч**! Для нас цябе няма на свеце даражэй. Адна ты ў нас, як у нябёсах сонца. І Бог цябе няхай заўсёды беражэ, і зорка шчасця свеціцца твая бясконца. *Сыны Саша і Лёша.*

**Коля**! Віншую цябе са святам! Здароўя, шчасця, усіх зямных даброт табе, родны, поспехаў усюды і ва ўсім. *Ірына.*

Віншуем **Вольгу Троцкую** з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, шчасця і каб усе жаданні збыліся. *Сям'я Рубіных.*

Віншуем з 45-годдзем **Аляксандра Мікалаевіча Дылеўскага**! Жадаем здароўя, шчасця, радасці, кахання. *Малашэвіч, Кавяза.*

Віншуем з днём нараджэння **Вольгу Троцкую**! Жадаем шчасця, здароўя, кахання. *Твае сяброўкі Вольга і Алеся.*

Дарагая **Танюша Кузіна**! Віншуем з 25-годдзем! Жадаем шчасця, здароўя, узаемнага кахання. *Мама, тата, брат.*

Віншуем дарагую матулю **Валянціну Татарчук** з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, кахання і ўсяго найлепшага ў жыцці. *Дачка, зяць, унук.*

Віншуем дарагую дачушку **Наталлю Мікуліч** з 15-годдзем! Жадаем здароўя, радасці, верных сяброў. *Тата, мама, сястрычка Надзея.*

**Грыша Голуб**! З днём нараджэння! Будзь заўсёды здаровы, шчаслівы, прыгожы, усімі любімы. *Родныя.*

Віншуем **Грышу Голуба** з 5-годдзем! Расці здаровым, вясёлым, паслухмяным хлопчыкам! *Мама, тата.*

Дарагога **Грышачку Голуба** віншуем з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, усяго самага найлепшага. *Бабулі і дзядулі.*

Віншуем з 55-годдзем дарагую матулю і бабулю **Раісу Мікалаеўну Яцэвіч**! Жадаем здароўя і шчасця. *Дачка, зяць і ўнукі.*

Віншуем з 15-годдзем **Наташу Касяровіч**! Жадаем моцнага здароўя, шчасця і ўсяго найлепшага ў жыцці. *Твая хросная.*

**Дзмітрыю Маскалевічу** і **Аляксандру Космачу**. Хлопчыкі, з Новым годам! Здароўя, шчасця, кахання. *Рэгіна.*

**Алёне** і **Ігару Ляхам**, іх сям'і. З Новым годам і Калядамі! Удачы, шчасця, лебядзінай песні. *Рэгіна.*

**Мікалаю Чэрніку**
з Маладзечна
Віншуем з 25-годдзем!

Желаем всегда и во всем успевать,
Усталости, слабости, горя не знать.
Желаем всегда
оставаться счастливым,
Веселым, радушным,
здоровым, красивым.
*Сям'я Зянько-Махоркіных.*

**Света Тарыма**, **Юля Кульчык**, **Алёна Раманіна**, **Аліна Жалубоўская**, **Наташа Вінаградава**, з Калядамі і Новым годам! Удачы і шчасця. *Рэгіна.*

**Валодзя Кісель**, **Света Гудзеўская**, **Лёня і Ніна Грыневічы**, з Новым годам і Калядамі! Здароўя, удачы ў рабоце. *Рэгіна.*

Дарагая **мамачка**, **Зойка**, **Катажынка**, **Тарэска**, з Калядамі і Новым годам! Здароўя, шчасця, поспеху. *Рэгіна.*

**Пятру Пятрагу**, пробашчу касцёла в. Краснае. З Калядамі і Новым годам! Здароўя і няхай беражэ вас Бог. *Парафіяне.*

**Марына Сіляўка і Вольга Малафей**, з Калядамі і Новым годам! Здароўя і ўдачы ў рабоце. *Рэгіна.*

**У. Я. Даўгучыцу**, **У. У. Матусевічу**, **А. Ч. Пяркоўскаму**. З Новым годам! Здароўя, удачы. *Сябры.*

**Алене Уладзіміраўне Елізавецэнцы**. Сонейка, з Новым годам і Калядамі! Удачы, поспехаў. *Рэгіна.*

**Раіса Мечыславаўна Мураўская**, з Калядамі і Новым годам! Здароўя, поспеху, удачы. *Рэгіна.*

**Марыя Мікалаеўна Кур'яновіч**, з Калядамі і Новым годам! Здароўя, шчасця, поспехаў. *Ваша 17 група.*

**Міша і Галя Сікорскія**, з Калядамі і Новым годам! Здароўя, шчасця. *Сям'я Пішчакаў і Рэгіна.*

**Наталля Люковіч** і твая сям'я, з Калядамі і Новым годам! Шчасця, поспеху. Прывітанне **Жанне** і яе сям'і. *Рэгіна.*

**Ядвіга Станіславаўна Міцкевіч**, з Новым годам і Калядамі! Здароўя, шчасця. Дзякуй за газеты. *Вашыя чытачы.*

**Святлана, Валерый, Люда, Жэня, Сяржа Пракаповічы**, з Новым годам! Лебядзінай песні вам. *Рэгіна.*

З Новым годам, **Людміла Паўлаўна Токарава**! Здароўя, шчасця. *Рэгіна.*

**Галіна Іванаўна Дземідовіч**, з Калядамі і Новым годам! Здароўя, шчасця. *Рэгіна.*

**Г.С. Панчанцы, А.С. Зубрыцкай, А.М. Кандрацені**. Дзяўчаты, з Новым годам! Я вас памятаю, поспехаў вам. *Рэгіна.*

# ЗНАЁМСТВЫ

Цікавай маладой жанчыне (41/168/62, сыночку 3 гады) неабходны забяспечаны надзейны мужчына. Маладзечна-7, п/п МС 0095780.

Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з жанчынай да 35 год, пажадана, без жыллёвых праблем, можна з дзіцем. Пра сябе: 32/170/68. Маладзечна-7, п/д АВЩ №506357.

Стройная жанчына прыемнай знешнасці, 33 гады, в/а, без жыл/праблем, пазнаёміцца з мужчынам для стварэння сям'і. Маладзечна-6, п/п МС 0651415.

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету! Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон** 51

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Чаму не спыняюцца легкавушкі

**(расказ Рыбака Гатаўскага)**

Наведаў я свайго сябра ў вёсцы Дзягілі. І тут даведаўся, што не пойдзе ў рэйс аўтобус у Мядзел да аўтастанцыі. Што рабіць?

Вырашыў 12 кіламетраў адолець пешшу. Дзень быў сонечны, бязветраны. Ісці – адно задавальненне. А мо, які аўтамабіліст падбярэ па дарозе? Свет не без добрых людзей.

Толькі мінуў вёску, як чую, што адзаду набліжаецца аўтамашына. Спыніўся, "галасую". Легкавушка праехала міма. На ўзнятую руку не рэагаваў другі, трэці... шосты вадзіцель, хаця адзаду ў салоне было свабоднае месца. Што за прычына? Ніяк не магу зразумець. А ўсё ж працягваю галасаваць. Міма праносяцца і праносяцца машыны розных айчынных і замежных марак.

Даганяе мяне на веласіпедзе знаёмы, **Іван Жук** з вёскі Мікасецк. Я яму і расказваю свае дарожныя прыгоды. Іван Жук смяецца з маёй недасведчанасці і дае тлумачэнне:

– Першы вадзіцель не спыніўся, бо спяшаўся на аўтавакзал у Мядзеле – вёз цешчу. Спынісся – згубіш некалькі хвілін, аўтобус пойдзе ў рэйс, цешчу вязі назад і выслухоўвай дома яе заўвагі.

Другі вадзіцель не захацеў падбіраць на дарозе пасажыра, таму што вёз на вакзал сваю дарагую палавіну, якая павінна была адбыць на курорт. Гэта яна не дазволіла падбіраць на дарозе знаёмых і незнаёмых. Увесь час інструктавала, як мужу паводзіць сябе ў яе адсутнасці: не піць, да суседак не заляцацца, апрача хлеба і цукру, нічога не купляць.

Трэці ўладальнік іншамаркі імчаўся з каханкай. Навошта ім трэці чалавек, каб ведаў таямнічую іх размову.

– А чацверты, пяты? – пытаюся ў земляка. – Няўжо і ў іх былі важкія прычыны не спыніцца?

– Калі не ведаеш, дык слухай. Вось бы і ты вез ад цешчы паўкабана, які заняў усе месцы ў салоне аўтамашыны. Ці ж спыніўся б?

Пяты вадзіцель начытаўся ў газетах, што часам спыняюць шафёра рабаўнікі і абіраюць да ніткі. Адкуль вадзіцель ведаў, што ідзеш адзін? А мо, у кустах схавалася кампанія. Як толькі машына спыніцца, нягоднікі выбегуць з кустоў і навядуць зброю.

– Ну, ты, Янка, вялікі выдумшчык. Працягвай свае байкі.

– Якія байкі? Гэта ўсё праверана на практыцы, хоць не маю машыны, ёсць толькі веласіпед. Але ўсё гэта чуў ад вадзіцеляў. Слухай і пра іншыя прычыны.

Пра сёмага вадзіцеля скажу наступнае. Ён нядаўна, напэўна, набыў "Вольва" і "Мерседэс", калі кранаецца з месца, дык не плаўна, а рыўкамі. Вось ён і не хацеў выглядаць няўмекам.

А наступны шафёр не хацеў, каб лішні раз адчыняліся і зачыняліся дзверцы машыны. Ён гэта робіць сам толькі ў двух выпадках: калі машына новая ці жонка новая.

– З табой, Янка, прайшлі кіламетры з два. Міма нас праненсліся яшчэ з дзесятак "лімузінаў". Ніхто з вадзіцеляў "не бачыў" маёй узнятай рукі. Я ўжо і сам зрабіў выснову: мо, таму, што ідзем удвух, знаёмыя, да блізкай вёскі Сцюдзяніца. Едзь на сваім двухколавым кані, а я на сваіх дваіх буду крочыць да Мядзела. Пройдзена паўдарогі.

Больш транспарт не спыняў. Дзень спрыяў пешаму падарожжу. Але пачуўся адзаду шум матора, я азірнуўся. Ну і цуд! Незнаёмы вадзіцель спыніўся, запрашае ў салон. Ля мядзельскай аўтастанцыі памкнуўся я дастаць кашалёк, каб разлічыцца.

– Не выдумляйце, дзядуля, не з-за грошай я спыніўся.

Выйшаў з машыны і пашкадаваў, што не спытаўся імя гэтага добрага чалавека.

А вы, чытачы, часам, не ведаеце іншых выпадкаў, чаму не спыняюцца легкавушкі?

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

# Падпіска на 2002 год

Сябры! Заканчваецца падпіска на "РГ" на першае паўгоддзе. Індывідуальная падпіска на 1 месяц каштуе 1035 рублёў, ведамасная – 4191 рубель.

**Заставайцеся з намі ва ўсе часы!**

■ ІМЯНІНЫ

**21 снежня**
**Праваслаўныя**: Анфісы, Кірылы, Патапа.
**Каталіцкія**: Пятра, Тамаша, Яна.

**22 снежня**
**Праваслаўныя**: Ганны, Анастасія, Сафрона, Сцяпана.
**Каталіцкія**: Ганараты, Зянона, Францішка.

**23 снежня**
**Праваслаўныя**: Ангеліны, Івана, Міны, Сцяпана, Фама.
**Каталіцкія**: Вікторыі, Фафіліі, Славаміра.

**24 снежня**
**Праваслаўныя**: Данілы, Нікана.
**Каталіцкія**: Евы, Эвеліны, Адама.

**26 снежня**
**Праваслаўныя**: Лукіі, Аркадзя, Арсенія, Арэста, Аўксенцыя, Нікадзіма, Яўстрата.
**Каталіцкія**: Дзіяніза, Сцяпана.

**27 снежня**
**Праваслаўныя**: Апалонія, Калініка, Філімона.
**Каталіцкія**: Максіма, Цэзара, Яна.

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Салянка рыбная «Сталічная»

**1,5 л адвару з гародніны, 500 г пачышчанай рыбы, 2 цыбуліны, 50 г масла, 150 г свежай капусты, 2–3 сушаныя грыбы, 2 салёныя агуркі, 1 лыжка таматнага соусу, 3–4 вараныя бульбіны, 50 г сыру, соль, перац, часнок.**

Пачышчаную рыбу без костак нарэзаць скрылькамі, нацерці соллю з тоўчаным часнаком, праз 30 хвілін апусціць у адвар, што кіпіць на слабым агні, на 15–20 хвілін. Цыбулю дробна парэзаць, абсмажыць на тлушчы, пакуль не стане празрыстая, дадаць нашынкаваную капусту і патушыць, падліваючы адвар. Дадаць у суп разам з нарэзанымі паўкольцамі абчышчанымі агуркамі, варанай бульбай, нашынкаванымі ў выглядзе локшыны грыбамі. Дадаць таматны соус, перац, соль, цукар на смак, закіпяціць, пасыпаць надзертым сырам і паставіць у гарачую духоўку (220°), пакуль сыр не расплавіцца.

## Фасоля, тушаная з сардэлькамі

**500 г фасолі, 300 г сардэлек (кілбасы), 2 цыбуліны, 50 г таматнага соусу, 50 г тлушчу, 1 лыжка мукі, соль, цукар, лаўровы ліст.**

Памытую фасолю заліць гатаванай вадой на ноч, затым зварыць у гэтай самай вадзе. Вады ўліць столькі, каб больш не дадаваць. Дробна пасечаную цыбулю крыху абсмажыць на тлушчы (падрумяньваць не трэба), дадаць муку, падсмажыць з таматам і запраўіць фасолю. Сардэлькі пачысціць, нарэзаць кружочкамі, дадаць да фасолі і пракіпяціць 5–7 хвілін. За 5 хвілін да канца варкі ўсыпаць соль, цукар на смак, пакласці лаўровы ліст.

■ СМАЧНА ЕСЦІ АД ІГАРА КІЦІКАВА

## Дыета «Тры кураняці»

Неяк раніцой у нядзелю паснедаў блінамі са скваркамі і пачаў збірацца на рынак. Што такое? Рэмень не зашпільваецца.

А жонка ўсміхаецца:

– А што ты думаў? Скварку ясі і скваркай закусваеш. Час табе на дыету.

Іду сабе на рынак і думаю, якую выбраць дыету – лёгкую ці жорсткую. Вырашыў сесці на дыету "Тры кураняці".

Кумпячок адварыць у невялікай колькасці вады. На алеі падсмажыць цыбулю. Абабраць вялікую галоўку часнаку. З кумпячка зрэзаць мяса і перакруціць з цыбуляй і часнаком. У булён дадаць курыны "Роллтон", паралельна адварыць тры яйкі ўсмятку. Макарону выкласці ў талерку, змяшаць з пастай і заліць вадкім жаўтком.

Вось вам і тры кураняці: ад першага ўзялі нагу, другое з "Роллтона", ну, а трэцяе вылупілася б з яйка, каб вы яго не зварылі.

Скажаце, якая такая дыета? Гэта ж адныя калорыі. Дык не так зразумелі. Макарону аддам жонцы і дачцэ, а мне лёгкая дыета – булён, а калі не дапаможа – жорсткая: адвар, дзе варыліся яйкі.

**Ігар КІЦІКАЎ, Вілейка.**

■ КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя!

Чаму некаторыя айсбергі ля берагоў Антарктыды бываюць чорнага колеру? Такое было пытанне ў мінулы раз.

Правільны адказ: таму што на Паўднёвых Шатландскіх астравах дзейнічаюць вулканы. І ледніки на гэтых астравах пакрытыя чорным вулканічным пылам, які не змываецца нават марской вадой. Часам часткі чорнага ледніка адколваюцца і спаўзаюць у мора. Так узнікаюць чорныя айсбергі.

Трапілі ў "дзесятку" **Сяргей Цуба, Андрэй Мінец, Наталля Сушко і Андрэй Цітоў**. Іх запрашаю ў рэдакцыю па білеты ў кіно.

**НАСТУПНАЕ ПЫТАННЕ:** калі і дзе паставілі першую ў свеце оперу?

Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (апошні тэрмін – 26 снежня, 16-00) і прыходзьце па запрашальны білет для дзвюх асоб на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры "Радзіма".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

**Кінатэатр «Радзіма»**

**Снежань**

**Вялікая зала**

21–23 **"Сёстры"**, Расія 15-00, 19-00
**"Што хавае мінулае"**, ЗША-Канада, дэтэктыў на відэасістэме 17-00, 21-00

24 снежня – 1 студзеня **"Халасцяк"**, ЗША, рамантычная камедыя 15-00, 19-00
**"Эксчэйндж"**, Англія, фантаст. баявік на відэасістэме 17-00, 21-00

**Для дзяцей**

23 – **"Кэці"**, 13-00
24 – **"Ну, пачакай!"** №10 (мультпрагр.), 13-00
25 – **"Снежная каралева"**, 13-00
26 – **"Тарзан"**, 13-00
27 – **"102 далмацінцы"**, 13-00

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

- Самае вялікае шчасце – мець прыгожую жонку, а самае вялікае няшчасце – мець такое шчасце.
- Школа – гэта ўстанова, дзе дзяцей вучаць патрэбнаму і непатрэбнаму разам, усяляк замінаючы адрозніваць ім адно ад аднаго.
- Заслужаны поспех прыходзіць да таленавітых. Астатнія задавальняюцца незаслужаным.
- Добра мець сваё меркаванне, калі ў цябе яго ніхто не пытаецца.
- Заўсёды не хапае часу, каб выканаць работу як трэба. Але на тое, каб яе перарабіць, час заўсёды знаходзіцца.
- Каса – месца ва ўстанове, дзе двойчы ў месяц усе ахвотна даюць аўтографы.
- Жанчына дзеля кахання здольная на ўсё, а мужчына – толькі на тое, што можа.
- Пакуль выбераш месца пад сонцам, ужо вечар.

## ■ КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ.




| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №50
САМААБАРОНА.

## ■ ПРОСТА АНЕКДОТ



Сядзіць маманцяня, плача. Іншыя маманты пытаюцца, чаго.

– Вось іду, нікога не чапаю. Аднекуль знянацку выбягае натоўп сланоў, б'е мяне і ўцякае.

– Так! Апошнім часам гэтыя скінхэды (брытагаловыя) зусім разбэсціліся!

## Гараскоп 24 – 30 снежня



**Авен**
(21.03–20.04)

Авены павінныя прысвяціць наступны дзень дзелавым перагаворым, рабоце з банкамі ці іншымі фінансавымі структурамі. Гэты тыдзень спрыяльны таксама для заняткаў спортам, вывучэння замежных моў і творчай дзейнасці. Адзінокім прадстаўнікам гэтага знака зоркі прадказваюць рамантычную сустрэчу.



**Цялец**
(21.04–21.05)

Цяльцы на наступным тыдні змогуць дасягнуць поспеху ў грамадстве за кошт свайго асяроддзя. Чакаецца істотная дапамога і ад бацькоў. Вы пазнаёміцеся з новымі людзьмі, якія стануць вашымі сябрамі. У каханні вы робіцеся разважлівымі, што ўплывае на вашыя стасункі з партнёрамі.



**Блізняты**
(22.05–21.06)

Блізняты адчуюць прыліў працаздольнасці і энергіі. Зоркі рэкамендуюць вам закасаць рукавы і энергічна ўзяцца за справу. У каханні ўсё застанецца па-ранейшым. Мужчынам-Блізнятам, каб пазбегнуць негатыўных наступстваў, не варта прымаць кардынальных рашэнняў. Асцерагайцеся рамантычных прыгод.



**Рак**
(22.06–23.07)

Ракі змогуць дабіцца поспеху ў кар'еры. Вас чакае новае знаёмства ці нейкая вестка, што можа цалкам змяніць ваш лад жыцця. У камерсантаў напярэдадзе паездкі, сустрэчы і новыя справы, звязаныя з пашырэннем сферы бізнесу. Астролаг, аднак, рэкамендуе вам быць асцярожнымі, таму што ўдача можа пакінуць вас у любы момант.



**Леў**
(24.07–23.08)

Ільвам карысна прысвяціць сябе любімай творчай рабоце. Пакіньце руціну на потым, цяпер у вас выдатны шанц раскрыць сябе. Варта прыслухацца да парад родных і блізкіх людзей: яны здольныя вам дапамагчы не толькі ідэямі, але і матэрыяльна. У каханні настаў залаты час. Абавязкова наладзьце каханым святочныя вечары, парадуйце іх падарункамі.



**Дзева**
(24.08–23.09)

Дзевы на службе могуць з лёгкасцю дабіцца таго, што раней здавалася недаступным. Існуе магчымасць перамяшчэння ўверх па службовай лесвіцы. Але не рабіце капіталаўкладанняў: неспрыяльнае спалучэнне планет можа прывесці да фінансавых страт. У адносінах з блізкім чалавекам настане абнаўленне эмоцый.



**Шалі**
(24.09–23.10)

Шалям удасца высветліць нямала цікавага пра сваіх сяброў. Лепшы занятак на гэтым тыдні – дабрачыннасць. Дапамога навакольных людзей дабратворная і прыносіць задавальненне. У каханні з'яўляецца больш пяшчоты і ўзнёсласці. Удалыя дні на тыдні – серада і пятніца.



**Скарпіён**
(24.10–22.11)

Скарпіёны змогуць стварыць вакол сябе гарманічнае асяроддзе: з вамі камфортна. Вы станеце аб'ектам усеагульнага прызнання. На наступным тыдні дамажацеся поспеху ў юрыдычных пытаннях. Вы знойдзеце агульную мову нават з самымі канфліктнымі і ўпартымі людзьмі. Будуць атрымлівацца любыя перамовы, якія прывядуць да выгадных саюзаў.



**Стралец**
(23.11–21.12)

У Стральцоў з'явіцца магчымасць дабіцца прарыву ў справах на прафесійнай ніве. Камерсанты ўступаюць у сур'ёзную канкурэнтную барацьбу. Будзьце гранічна асцярожныя і не прымайце паспешлівых рашэнняў, бо можаце трапіць у пераплёт. Асцерагайцеся рамантычных прыгод – яны могуць мець непажаданыя вынікі.



**Казярог**
(22.12–20.01)

Казярогам станоўчыя вынікі прынясуць любыя справы ці паездкі, якія звязаныя з пашырэннем поля дзейнасці. У вас праявіцца моцная інтуіцыя, часткова вырашацца праблемныя сітуацыі. Палепшацца ўнутрысямейныя стасункі.



**Вадалей**
(21.01–19.02)

Вадалеі будуць удачлівыя ў бізнесе. Але для гэтага неабходна дзейнічаць толькі праверанымі спосабамі. Зоркі раяць брацца толькі за тыя справы, у якіх вы добра разбіраецеся. У адваротным выпадку вы можаце стаць прычынай чарговага канфлікту.



**Рыбы**
(20.02–20.03)

Рыбаў чакаюць сур'ёзныя перамены ў жыцці: падкопы нядобразычліўцаў і няўдалы збег акалічнасцяў можа парушыць намечаныя планы. У камерсантаў і прадпрымальнікаў верагодныя буйныя пралікі і розныя фінансавыя страты. Да занятых на дзяржаўнай службе, наадварот, прыходзіць грашовая ўдача. Вас чакае многа перспектыўных ідэй.



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)


**Рэгіянальная газета**

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **8190 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№51 (348) 21.12.2001.** РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №. Падпісана ў друк у 13.00 20.12.2001



**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**


**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»